*Пракурор папрасіла суд прызначыць былому дырэктару сталічнага Палаца спорту Сяргею Пpaнoвiчy за хабарніцтва і махлярства пакаранне – 11 гадоў у калоніі.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 23 (4378)**

22 сакавіка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**АДГУКНІЦЕСЯ!**

## «Народнай Волі» не хапае 2000 падпісчыкаў

Шаноўныя сябры!

Прабачце, але мы вымушаны паўтарыць зварот, які быў надрукаваны ў мінулым нумары.

Так, сярод друкаваных незалежных газет «Народная Воля» лічыцца лідарам. Разавы тыраж – больш за 23.000 экзэмпляраў. Але гэтага недастаткова для бесперабойнага выхаду выдання ў другім квартале – выраслі тарыфы на паліграфічныя паслугі, падскочылі цэны на паперу, транспартныя і іншыя расходы. Выйсце адно – павялічыць кола падпісчыкаў на 2000 чалавек.

І сёння мы звяртаемся да Вас, пастаянных нашых чытачоў і прыхільнікаў. Менавіта Вы можаце зрабіць сур'ёзны ўнёсак у рэкламу «Народнай Волі», пашырэнне яе аўдыторыі. Звярніцеся, калі ласка, да сваіх сяброў, сваякоў, суседзяў, саслужыўцаў, выклічце ў іх цікавасць да нашай газеты, настойліва парайце ім аператыўна падпісацца на «Народную Волю».

Заўважым, кошт месячнай падпіскі на «Народную Волю» – 7 рублёў 20 капеек. Індывідуальны індэкс – **63222**. Каб атрымліваць газету з 1 красавіка, неабходна аформіць падпіску да 27 сакавіка. Зрабіць гэта можна ў любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку». Магчыма гэта таксама праз сістэму АРІП, запоўніўшы на сайце **www.nv-online.info** альбо на сайце **http://belpressa.by** электронны бланк падпіскі і аплаціўшы карткай.

«Народная Воля» – за адраджэнне Беларусі, за ўмацаванне дэмакратыі, за захаванне правоў чалавека.

**Разам умацуем тыраж «Народнай Волі»!**

***Рэдакцыя.***



**БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ**

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

## Годзе мерцвячыны!

Пасля леташняга прыгожага масавага святкавання Дня Волі сёлета ўлады не наважыліся даць дазвол на збор людзей на стадыёне «Дынама» і ля Опернага тэатра. І ўсё ж спахапіліся і ў выніку згадзіліся мо і не на самыя кепскія варыянты ў Мінску і Гродне.

Кладучы руку на сэрца, апазіцыя (я кажу пра апазіцыю ў шырокім сэнсе) таксама паказала сябе не найлепшым чынам. Ад пачатку распалася на розныя ініцыятывы што да месца і сцэнарыя святкавання (а хтосьці, убраўшыся ў белую тогу, стаў ганіць і тых, і другіх). Потым пачалі звыкла скубціся за рэсурсы. А сёння ж, у эпоху сацыяльных сетак, такая мышыная валтузня як на далоні і аўтарытэту нікому не дадае.

Уся гэтая неразбярыха, спароджаная як гульнямі ўлады, так і ўнутрыапазіцыйнымі інтрыгамі, пэўна ж, зменшыць масавасць мерапрыемстваў (хоць я шчыра зычу, каб на кожнай з пляцовак народу сабралася як мага болей).

Але калі нехта наверсе пацірае рукі, што ўдалося змазаць святкаванне, то гэта не ад вялікага розуму. Улады атрымалі піраву перамогу.

Прычым яны, мяркую, дарэмна перастрахаваліся. Па-першае, леташні досвед паказаў, што ніякай небяспекі для вярхоў у масавым святкаванні Дня Волі няма. Людзі прыйшлі з выключна мірнымі намерамі, у пазітыўным настроі. Ніхто не збіраўся штурмаваць урад.

Па-другое, варта ўжо наматаць на вус: нават калі ў нейкім месцы збяруцца тры свядомыя беларусы, то расійскія шавіністычныя каментатары пры жаданні ўсё адно здольныя стварыць ілюзію, што ў нас тут разгул мясцовых бандэраўцаў ды іншых русафобаў. Дык ужо калі і трываць наскокі вялікадзяржаўнай прапаганды, то хай будзе за што.

Зразумела, што ў сённяшняй сітуацыі, калі адносіны з Масквой зноў абвастрыліся і сцэнарый інкарпарацыі навіс дамоклавым мячом, беларускае кіраўніцтва пабойваецца даць Крамлю лішнюю зачэпку. Таксама прысутнічае фобія, што калі адкруціш гайкі, то захістаецца сістэма.

Праз гэтыя ды іншыя засцярогі краіна ў палітычным сэнсе фактычна падмарожана, яе лёс трымаецца найперш на палітычнай волі афіцыйнага лідара. Аднак гэта хібная канструкцыя. Хаця б таму, што любы кіраўнік не вечны. І сёння мы бачым, як шматгадовы казахстанскі правадыр Нурсултан Назарбаеў, якога, мяркуючы па ўсім, прыціснула здароўе, мусіў запусціць працэс транзіту ўлады.

Аўтарытарнаму Назарбаеву можна закінуць багата чаго. Але варта адзначыць, што ў плане казахізацыі, акуратнага дыстанцыравання ад «русского мира» елбасы зрабіў нямала. Беларускім уладам у гэтым сэнсе не грэх павучыцца.

На добры лад ім сёння варта баяцца не росту беларускасці, а менавіта шчупальцаў гэтага «русского мира». Вярхі нібыта трохі і варушацца. Вось зацверджана канцэпцыя інфармацыйнай бяспекі. Але і з яе вынікае, што ўлады шмат у чым ускладаюць надзею на старыя інструменты, у прыватнасці дзяржаўную прэсу, якая апрыёры кепска прыстасавана да інфармацыйных выклікаў сучаснай эпохі.

Ці вось яшчэ: у канцэпцыі пішуць, што трэба рабіць стаўку на самабытнасць, развіццё грамадзянска-патрыятычнай ідэалогіі, а пры гэтым нам каторы год накідаюць чужыя, штучныя святы кшталту стагоддзя ВЛКСМ, дня кастрычніцкага перавароту ў Піцеры – і стараюцца скамечыць Дзень Волі, на грунце якога акурат і варта тлумачыць русіфікаванаму абывацелю, дзе вытокі нашай самабытнасці.

Панове, кіньце скакаць вакол трупа ВЛКСМ ды іншай ідэалагічнай мерцвячыны! Думайце пра сваё. Думайце пра жывое. Думайце пра заўтра. І, у прыватнасці, зразумейце нарэшце: без моцнай грамадзянскай супольнасці незалежнасць не абароніш.

Мы можам колькі заўгодна крытыкаваць апазіцыю за сваркі і слабую працу ў масах, але найперш дзеля гэтай працы мусіць быць створана мінімальная цывілізаваная рамка. А па вялікім рахунку трэба ствараць палітычную нацыю, фарміраваць свядомых беларусаў.

І тут мяч на баку ўлад. Працы мора: узнімаць статус мовы, развіваць беларускамоўную адукацыю, смялей фарміраваць нацыянальную канцэпцыю гісторыі і г.д. Прычым не трэба цяплічных умоў. Хаця б не душыце, не заганяйце нацыянальнае пад лаўку.

Мне скажуць: во летуценнік! Ды і сам разумею, што цяперашні рэжым не перакуецца цудадзейным чынам. І змагарам за беларушчыну ўсё адно шмат у чым давядзецца ісці супраць плыні.

Але ж нават пачуццё самазахавання мусіць падказваць кіроўным вярхам, што беларусізацыі няма альтэрнатывы. Бо без гэтага не будзе самой Беларусі. А кіраваць Паўночна-Заходнім краем Масква, калі што, прышле свае надзейныя кадры, выкінуўшы тутэйшых бітых тузоў на сметнік.



**ОСОБЫЙ ВЗГЛЯД**

## Кому не нравится – идите лесом...

Опять оппозиционный междусобойчик на тему «Кто круче?». В действительности круче всех оказалась власть, которой все эти расприи – бальзам на раны и кофе в коньяк. Сидит и наблюдает, как главным занятием в ходе предстоящего празднования Дня Воли, того и гляди, станут состязания по перетягиванию политических канатов.

Друзья мои, успокойтесь! Не нужно канаты перетягивать. Нужно сосредоточиться, все обдумать и максимально использовать плюсы создавшегося положения.

Молодцы те, кто не отказался от использования минской площадки и с воплями «Мы не пойдем на Бангалор!» не бежал из столицы. Публичное уличное мероприятие в Минске должно быть! Пусть не столь роскошное, как в прошлом году (все же отмечалось 100-летие!), но должно быть, никуда не денешься. Этого требует общенациональный статус даты.

Однако Беларусь – это не только Минск. Обратите внимание на логику власти, плавно мигрирующей со всеми торжествами по стране. «Дожинки» проводятся в разных региональных центрах, дни белорусской письменности также. Это правильно. Как говорил главный герой пьесы Александра Вампилова «Старший сын», «место музыканта – там, где человеку плохо или хорошо, на похоронах и свадьбах». Эти слова старого лабуха Сарафанова нашим политикам давно надо было бы взять на заметку.

Сейчас по крайней мере гродненцы увидят: у власти своя «свадьба» – у нас своя. Свои, так сказать, демократические «Дожинки». Потому молодцы мои дорогие земляки гродненцы, добившиеся возможности проведения их в Гродно: теперь минчане тоже будут знать, что жизнь за Минской кольцевой автодорогой не заканчивается. Наоборот – продолжается!

Соответственно нужно планировать и другие «мигрирующие» праздники. Вне зависимости от того, во власти вы или в оппозиции, люди вокруг вас должны привыкать к тому, что вы улыбаетесь, что у вас есть повод собраться, спеть, водрузить наш флаг. Кому не нравится – идите лесом, ребята. У вас своя «свадьба» – у нас своя, у вас свои «дожинки» – у нас свои. А кто там круче – время покажет.

В общем, всех нас, кто бы и где ни праздновал, – с наступающим!

**Федор КОНСТАНТИНОВ.**

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

Павел БЕЛАВУС:

## «Каложа – культавае месца, дзе годна зможам адзначыць Дзень Волі»

– Фармат свята ў Гродне будзе прыкладна такім жа, як і ў мінулым годзе ў Мінску, – кажа **Павел БЕЛАВУС.** – Выступяць папулярныя беларускія гурты і выканаўцы «Крама», Лявон Вольскі, Dzeciuki, «Дай дарогу!», Зміцер Вайцюшкевіч. Таксама будзем даваць слова спікерам – гісторыкам, палітыкам, прадстаўнікам гродзенскай інтэлігенцыі. Усе пацвердзілі свой удзел.

**– Некаторыя крытыкавалі вас за рашэнне правесці мерапрыемства ў Гродне. Маўляў, чаму нельга было такое ж арганізаваць у Мінску на дазволенай пляцоўцы, хаця і не ў цэнтры горада?**

– Адсвяткаваць Дзень Волі ў Гродне было калектыўным рашэннем людзей, якія рэальна займаліся падрыхтоўкай свята ў мінулым годзе і хочуць зрабіць нешта маштабнае ў гэтым.

Да таго ж мы з самага пачатку заявілі, што прынцыпова не будзем святкаваць на той жа плошчы Бангалор, а прынцыпаў трэба прытрымлівацца. І вельмі недарэчна кажуць тыя, хто параўноўвае сталічную гэтую плошчу і гродзенскую Каложу. Каложа – гэта культавае месца, гістарычная кропка. Так, не цэнтр горада, але ж важны турыстычны аб'ект. Бераг Нёмана, Каложская царква, старая частка Гродна… Мы лічым, што гэта годнае месца, каб адзначыць свята.

Думаю, гэта будзе падзея не толькі для Гродна, але і для ўсяго рэгіёна, бо там ніколі мерапрыемстваў такога маштабу не адбывалася.

**– З фінансаваннем праблем няма?**

– На дадзены момант агулам сабрана каля 12 тысяч рублёў, хаця, каб правесці свята ў тэхнічным плане як мінімум на ўзроўні мінулага года, неабходна 15 тысяч. Мне падаецца, што неабходную суму, у рэшце рэшт, назбіраем

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**ЗНАМЯНАЛЬНАЯ ДАТА**

Юрась ГУБАРЭВІЧ:

## «У Мінску святкаваць Дзень Волі-2019 будзем 24 сакавіка ў Кіеўскім скверы»

*Улады забаранілі адзначаць 101-ю гадавіну абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі на стадыёне «Дынама», ля Опернага тэатра, але дазволілі святкаванне ў Кіеўскім скверы.*

*Які фармат сёлетняга мерапрыемства? Ці чакаюць яго арганізатары такой жа шматтысячнай колькасці ўдзельнікаў, як было летась?*

*Гэтыя пытанні мы адрасавалі аднаму з заяўнікаў Дня Волі – 2019, старшыні руху «За Свабоду» Юрасю Губарэвічу.*

**– 24 сакавіка вы запрашаеце людзей на святочны канцэрт ці ўсё ж святкаванне будзе мець больш шырокі фармат? Што значыць «з палітычным складнікам», як сказана ў вашай абвестцы?**

– Свята Дзень Волі мае пад сабой гістарычны грунт, кожны год мы ўзгадваем пра падзеі 1918 года, калі пасля распаду Расійскай імперыі беларусы ўзялі на сябе адказнасць і заявілі пра жаданне мець сваю незалежную, самастойную, суверэнную дзяржаву. У сённяшняй сітуацыі мы таксама бачым, што існуе нестабільнасць у рэгіёне, што ўзмацняюцца імперскія амбіцыі ўсходняга суседа, якія ставяць пад пагрозу нашу незалежнасць. Таму кожны год беларусы выходзяць 25 сакавіка на вулічныя акцыі, каб заявіць аб сваім праве жыць у самастойнай дзяржаве.

24 сакавіка, безумоўна, будуць і віншаванні са святам, і прамовы пра небяспеку для нашага суверэнітэту, і выступленні на тэму гістарычных аналогій, паралеляў. Мы звернемся да прысутных з заклікам падпісаць рэзалюцыю, у якой абазначым наша стаўленне да ўсіх ключавых пытанняў сённяшняга дня.

**– Цяпер для правядзення масавага мерапрыемства патрабуюцца значныя ўкладанні. Ці ёсць грошы, каб разлічыцца з міліцыяй, камунальшчыкамі?**

– Сапраўды, сумы вялікія, прычым яны выстаўляюцца незалежна ад таго, што пляцоўка вызначана Мінгарвыканкамам, што мерапрыемства будзе адбывацца легальна. Для нас выдаткі на аплату паслуг міліцыі, «хуткай дапамогі» і камунальных службаў складуць амаль палову ад усёй неабходнай сумы. Дарэчы, мы ўжо сустракаліся ў Мінгарвыканкаме з прадстаўнікамі міліцыі, пракуратуры, выканкама і г.д., былі на пляцоўцы разам з прадстаўнікамі адміністрацыі Цэнтральнага раёна Мінска, з іх боку ёсць пэўныя крокі насустрач.

Што да фінансавага складніка, то грошы збіраем сіламі тых структур, якія выступілі арганізатарамі, – гэта рух «За Свабоду», аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», Аб'яднаная грамадзянская партыя і Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя «Грамада». Не сакрэт: мы разлічвалі і абапіраліся на словы ініцыятараў папярэдняга збору сродкаў на святкаванне #БНР101, што яны гатовы падтрымаць любое мерапрыемства. Аднак пачулі, што ўсе сабраныя талакой сродкі, у тым ліку і ахвяраванні сябраў нашых арганізацый, пойдуць на святкаванне Дня Волі 23 сакавіка ў Гродне.

**– Няма згоды ў дэмакратычным лагеры? Летась усе разам ладзілі святкаванне 100-годдзя БНР, чаму сёлета не атрымліваецца?**

– Думаю, праблема ў тым, што частка мінулагодніх арганізатараў – а тады кола заяўнікаў было шырокае – вырашылі, што могуць дзейнічаць самастойна, нікому не паведамляючы пра свае планы… Такі вынік, і з гэтага трэба зрабіць высновы на будучыню. Але сёння не трэба звяртаць на гэта ўвагу, свята мусіць адбыцца і ў Гродне, і ў Мінску, і ў іншых гарадах.

**– Колькі ўдзельнікаў Дня Волі чакаеце ў сталіцы?**

– Пляцоўка Кіеўскага сквера можа змясціць не менш людзей, чым збіралася каля Опернага тэатра ў мінулым годзе. Там вялікі парк, дастаткова заасфальтаваных тэрыторый. Але ўсё будзе залежаць ад актыўнасці людзей. Мы разумеем, што ўвага да юбілейнай даты БНР была значна большая, але і гэтым разам разлічваем, што святкаваць чарговую гадавіну абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі ў Мінску будуць разам тысячы людзей!

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**




**УДАКЛАДНЕННЕ**

## Пераскочылі лічбы...

Так, так, шаноўныя чытачы, лічбы могуць пераскокваць. Вядома ж, пры няўважлівасці аўтара матэрыялу. Менавіта з-за гэтага ў артыкуле «Не рыпайтесь!», апублікаваным у мінулым нумары, амаль на 100 гадоў спаўзла дата падпісання Кацярынай II маніфеста аб Крымскім паўвостраве. Сапраўды, такая падзея адбылася ў 1783 годзе, а не ў 1873-м. Недакладнасць у газеце – выпадкова памяняліся месцамі дзве лічбы – 8 і 7.

Чарговы ўрок для нас, супрацоўнікаў рэдакцыі: трэба, як кажуць, глядзець больш уважліва. Прыносім прабачэнне чытачам.

***Рэдакцыя.***

РЕЗОНАНС

Наталья ШУЛЬГА,
кандидат химических наук:

# «Белгорхимпрому» непросто будет выиграть суд в Стокгольме…»

Как известно, между Беларусью и Туркменистаном возник спор вокруг строительства Гарлыкского калийного горнорудного комплекса. Кто, кому и сколько должен денег, будет разбираться Арбитражный институт при Торговой палате Стокгольма.

Бывший сотрудник Института общей и неорганической химии НАН Беларуси, кандидат химических наук **Наталья Шульга** уверена, что этот конфликт был предсказуем и ОАО «Белгорхимпром» сейчас будет непросто отстоять свои интересы в суде.

**– Наталья, когда «Белгорхимпром» заявил, что «Туркменхимия» задолжала Беларуси более 150 миллионов долларов, не рассчитавшись за выполненные работы, экономист Леонид Заико выступил с резкой критикой: мол, изначально было безумием ввязываться в этот проект, от которого все отказались…**

– …и был, мне думается, прав. Об этом свидетельствует анализ информации, имеющейся в открытом доступе. Судите сами.



Строящийся в Гомельской области Петриковский ГОК, близкий по мощности к Гарлыкскому (7 миллионов тонн сырой руды, 1,4 миллиона тонн хлорида калия в год), обойдется белорусам в 1,5–1,7 миллиарда долларов. Учитывая разницу в глубине шахты, в итоге имеем 1,4 миллиарда долларов для Гарлыка, пусть даже с оплатой командировочных расходов и отправки техники на другой край света. Стоимость Нежинского калийного ГОК российского олигарха Гуцериева, который строится в Любанском районе, более 2 миллиардов долларов при мощности комбината 2 миллиона тонн хлорида калия в год. Канадцы еще десятилетие назад подсчитали, что создание ГОК мощностью 1 миллион тонн обойдется в 1,2 миллиарда долларов США. Принимая во внимание мощность Гарлыкского ГОК и глубину шахты, получаем около 1,5 миллиарда.

В комментариях на сайтах была информация, что канадцы готовы были взяться за строительство туркменского ГОК за 2 миллиарда долларов. Возможно, речь шла о канадских долларах, но все равно получается 1,5 миллиарда американских, и это гораздо больше, чем то, на что согласились белорусы – построить Гарлыкский ГОК мощностью 1,4 млн тонн хлорида калия в год за 1 миллиард долларов.

**– Выходит, что условия контракта были заведомо невыгодны генподрядчику? Зачем соглашались?**

– Те, кто был знаком с ситуацией, высказывали мнение, что и прочие условия контракта тоже были не лучшими. Но это было только начало гарлыкских проблем.

Странным образом тендер на проходку шахтных стволов в Гарлыке выиграла турецкая строительная компания «Коджа» (Koca Group), не имевшая прежде отношения к таким сложным работам. Белорусские участники конкурс проиграли. Еще более странно, что «Коджа» согласилась при проходке стволов использовать некую инновационную технологию. Заявка на изобретение была подана от лица ОАО «Белгорхимпром» в октябре 2010 года, авторы «ноу-хау» Е.А.Смычник, С.Ф.Шемет, Дженгиз Коджа. Кто это?

Евгений Смычник – молодой географ, сын тогдашнего гендиректора «Белгорхимпрома» Анатолия Смычника; Сергей Шемет – заместитель генерального на тот момент; третий автор – гражданин Турции, вероятно, владелец строительной компании.

Турецкие проходчики одолели в глубину всего лишь 26 и 40 метров, когда два будущих шахтных ствола стали затапливаться горячими подземными рассолами. Их приток достигал 3,4–4 тысяч кубометров в сутки, что уже было настоящей технической катастрофой. Летом 2013 года строители «Коджи» покинули Гарлык. Спасать проект пришли сотрудники ОАО «Трест Шахтоспецстрой», которым правительство Беларуси доверило честь исправить ошибки турецких коллег, использовавших в работе непроверенную технологию, давшую сбой. По крайней мере так писала наша официальная пресса. Разумеется, во всем обвинили турецких строителей, очистили котлован и начали все сначала, используя давно оправдавший себя метод заморозки околоствольного пространства. По договоренности с заказчиком пуск Гарлыкского ГОК отложили на два года…

Комментарии в социальных сетях, появившиеся в последнее время, позволяют высказать предположение, что детальные геологоразведочные работы в Гарлыке, как это положено делать в случае таких масштабных строек, не проводились. Похоже, что поверили данным полувековой давности, когда в регионе искали нефть и газ. Если решили сэкономить на доразведке, а генподрядчика такой вариант устраивал, то все риски он брал на себя, если иное не прописано в контракте.

**– В таком случае белорусам будет непросто отстаивать свои интересы в суде. На ваш взгляд, удастся ли нам вернуть 150 миллионов долларов?**

– Кто выиграет спор в Арбитражном суде, сегодня сказать сложно. Для этого нужно держать в руках полный текст договора и анализировать аргументы и промахи каждой из сторон. Другое дело, что, зная, как на самом деле функционирует наша наука, кого у нас ценят, кого и как проталкивают наверх, за что награждают и откуда растут ноги у наших провалов, случившееся не вызывает удивления.

**– На ваш взгляд, скажется ли ситуация с Гарлыком на репутации «Белгорхимпрома»?**

– Безусловно!

К слову, еще во времена директорства Анатолия Смычника «Белгорхимпром» был генподрядчиком проекта по шламовым «инновациям», цель которого состояла в том, чтобы путем пиара и всевозможных хитростей объявить кондиционным удобрением-мелиорантом токсичный промышленный отход, содержащий всего лишь 8 процентов хлорида калия, и разгрузить шламохранилища «Беларуськалия». Разумеется, без Института общей и неорганической химии НАН тут не обошлось. На каких глупцов была рассчитана эта, на мой взгляд, откровенная афера и кто ее проталкивал, сказать сложно. К счастью, выкрутить руки удалось далеко не всем участникам «инновационной прохиндиады». В итоге проект тихо свернули. Многие тогда называли его диверсией. Дело, судя по всему, замяли. К ответственности никого не привлекли.

Но, к сожалению, это было только началом нашего падения. Нивенский калийный ГОК, «безотходное» калийное производство под Калининградом, заявленное под лозунгом «впервые в мире», в конечном итоге тоже оказалось пустышкой, мыльным пузырем. Генподрядчиком проекта выступила компания «Белгорхимпромэнерго», зарегистрированная в Санкт-Петербурге в феврале 2010 года как дочернее предприятие белорусского ОАО «Белгорхимпром» для реализации проектов на территории Российской Федерации. В 2013 году по решению общего собрания акционеров ООО «Белгорхимпромэнерго» преобразовалось в самостоятельное предприятие, но главные действующие лица при этом никуда не исчезли.

Сегодня у «Белгорхимпромэнерго» большие проблемы. Компания, судя по всему, стоит на пороге банкротства. После выхода в российской прессе серии статей представитель заказчика, компания «К-Поташ Сервис», стала нанимать экспертов и завалила исками суды Калининграда. Суды тянутся третий год. Некоторые договоры с генподрядчиком уже расторгнуты в судебном порядке, часть исков заказчика о возврате денег удовлетворена. Так, по этапу «Обогатительная фабрика» проекта «Нивенский калийный ГОК», где субподрядчиком выступал ИОНХ НАН Беларуси, согласно решению Арбитражного суда от 29 августа 2018 года, необходимо вернуть заказчику в эквиваленте около 520 тысяч долларов.

**– Наталья, но это уже скорее дела Российской Федерации. Что касается «Белгорхимпрома», то до ситуации с Гарлыкским ГОК это было вполне успешное, работающее с хорошей прибылью предприятие. На сайте компании сказано, что она единственная в мире за последние 10 лет спроектировала 9 крупных предприятий и производств по выпуску калийных и комплексных удобрений, в том числе и за пределами Беларуси.**

– Если наши специалисты играют первую скрипку, то, думаю, такие эксцессы, как в случае с Нивенским ГОК, касаются не только Российской Федерации. Другое дело, что устоявшаяся практика назначения в «умные» исключительно «своих» людей раньше или позже должна была закончиться провалом. Не тут, так там.

Что касается комплексных удобрений, то мы тут отнюдь не пионеры и, конечно, не лидеры. Что до калийных ГОК с подземной добычей сырья, то почти полвека нигде в мире они не строились. ГОК с нуля (green-project) в Канаде недавно запустила немецкая компания K+S. К запуску своего предприятия в Волгоградской области готовится российский «Еврохим». Но нам почему-то нравится, расхваливая себя, использовать формулировки типа «единственные в мире» или «впервые в мире». Тогда почему мы такие бедные, если настолько умны?

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ЖАХ!

## Дзяўчынка ледзь не памерла…

*У Гродне зноў атручванне ўгарным газам.*

14-гадовую школьніцу знайшоў бацька – яна ляжала без прытомнасці на падлозе каля душавой кабінкі ў ванным пакоі. Яе хутка даставілі ў бальніцу. Выявілася, што ў крыві была высокая доза – амаль 40% – сумесі гемаглабіну і ўгарнага газу. Дактары здолелі ўратаваць дзяўчынку.

Для расследавання прычын здарэння была створана адмысловая камісія. Папярэдне пакуль вядома, што ў прыватным доме, дзе жыве дзяўчынка з бацькамі, устаноўлены газавы двухконтурны кацёл ацяплення.

Спецыялісты вытворчага ўпраўлення «Гроднагаз» зазначылі, што кацёл быў своечасова правераны фірмай, якая мае на гэта ліцэнзію. Якасць праверкі будзе яшчэ ўстанаўлівацца, але ўжо зараз заўважана, што санвузел абсталяваны ў кацельнай.

Паводле слоў спецыялістаў, па правілах катлы павінны стаяць у асобных памяшканнях, не гаворачы ўжо аб ванных пакоях, дзе ўтрымліваецца зусім іншая вільготнасць. Нават падсобныя памяшканні можна абсталёўваць толькі за сценкай кацельні.

Пакуль спецыялісты скупыя на ацэнкі і вывады. Праверка працягваецца. Нагадаем, што ў лютым 2018 года ў гродзенскім шматпавярховым доме ад атручвання ўгарным газам у ванным пакоі загінула шасцікласніца.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**



НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

Борис ЖЕЛИБА, профессор,
доктор экономических наук

## Не рассмешить бы Бога

Согласно указу президента №483 от 20 декабря 2018 г., ВВП Беларуси за 2019 год должен вырасти на 4%, потому что, как сказал министр экономики Д.Крутой, «ниже просто невозможно». Мировая экономика в целом последние лет пять показывает не менее 3% ежегодного прироста. Беларусь катастрофически отстает.

Но вот парадокс – кроме указа президента есть и другие документы, в которых поставлены иные цифры. Совмин принял среднесрочную финансовую программу республиканского бюджета на 2019–2021 гг., где обозначены такие темпы роста белорусского ВВП: 2,1%, 2,5% и 2,8% соответственно. Надо отдать должное ее разработчикам. Они исходили не из мифических 100 млрд долларов ВВП в 2025 году – политический лозунг президента, а из экономических реалий. С учетом запланированной девальвации белорусского рубля ВВП страны в долларовом эквиваленте в 2019 году ожидается даже меньше ВВП 2018 года. К концу 2021 года прогнозируется ослабление рубля к доллару на 10,5%, тогда как только за один 2018 год рубль девальвировался к «зеленому» на 9,5%.

Как показывает официальная статистика, белорусская экономика стартовала с началом текущего 2019 года с тревожными пробуксовками. За январь-февраль ВВП увеличился в годовом измерении (в сравнении с аналогичным периодом прошлого года) всего на 0,8%. А вообще с ноября 2018 года экономика Беларуси в таком измерении растет не более чем на 1%. Как говорится, на уровне статистической погрешности. Где уж там 4%, прогнозируемые указом! Прирост такой тоненький, что зависит даже от погоды. В теплый февраль, к примеру, просела выработка тепла и энергии, что отняло у роста белорусского ВВП 0,2–0,25%. А март опять теплее нормы. Не помогли нашему ВВП ни строительство, ни сельское хозяйство, ни многие другие отрасли. А тот тоненький прирост, что есть, обеспечили в основном обрабатывающая промышленность и особенно ритейл – розничная торговля. Ее товарооборот наподдал 6,1%. Это тот самый внутренний спрос, который пока является драйвером белорусской экономики. Он подогревается ростом зарплаты (за прошлый год номинальная зарплата увеличилась не менее чем на 13%) и кредитной экспансией населения (увеличение объемов потребительского кредитования почти на треть), которые продолжают по инерции иметь место и в начале года нынешнего.

В свое время премьер-министр С.Румас сообщил, что «принципиальным вопросом остается выполнение параметров программы социально-экономического развития на 2016–2020 годы». Значит, прогнозы на эту двухлетку должны вписываться в достижение задач, поставленных на пятилетие. А это рост ВВП на 12,1–15%. Учитывая, что в 2016 году ВВП Беларуси минусовал, нужно прирастать не менее чем на 3–4% ежегодно. Видимо, чтобы не вступать в противоречие с вышеупомянутым указом президента и задачами пятилетки, правительство выдвинуло два сценария роста ВВП.

Согласно первому, целевому, его прирост на 2019 год намечен в размере 4% (был урезан с 4,1%), согласно второму, базовому, – 2,1% (был сокращен с 2,8%). Словом, сценарии на любой вкус. Можно эти сценарии квалифицировать как политический и экономический. Вдруг внешняя конъюнктура, от которой так зависит экономика Беларуси, сложится, как это уже бывало не раз, благоприятно. Подскочат, например, мировые цены на нефть и нефтепродукты, на минеральные удобрения. Или благоприятные погодные условия позволят сельскому хозяйству повысить к 2021 году производительность труда на запланированные сказочные 40%. Или случится такое же сказочное заложенное правительством в план увеличение численности занятых в экономике, которая падает последние 8 лет. Вероятно, правительство также надеется на такие новые драйверы белорусской экономики, как Китайско-Белорусский парк «Великий камень», ПВТ, оборонный сектор. Тогда будет решена и политическая задача.

Министерство финансов трезво запланировало бюджет без учета поступления российской компенсации тамошнего налогового маневра (400–500 млн долларов в эквиваленте на 2019 год). Если учесть, что российские энергетические и прочие субсидии белорусской экономике за 2018 год составили порядка 7 млрд долларов, то с появлением нового посла России в Беларуси М.Бабича нас здесь не ждет ничего хорошего. Потому как экономику России ждут дальнейшие американские санкции. По подсчетам Минэкономразвития РФ, ущерб российской экономике от ограничительных мер со стороны других стран во главе с ЕС и США оценивается за 2018 год в 6,3 млрд долларов. По оценкам аналитиков в 2019 году российская экономика вряд ли вырастет больше, чем на 1%. Каждый процент роста российской экономики, как показала практика, есть живительный источник роста белорусского ВВП. Кассандры предсказывают и падение курса российского рубля. За ним, несмотря на усилия Нацбанка, должен последовать и белорусский.

Это у Маяковского: «Люблю я наших планов громадье…» А у нас как раз наоборот. Общеизвестно, что составлять планы-прогнозы неблагодарное дело: рискуешь прогадать. Хочешь рассмешить Бога – сообщи ему о своих планах.

ЗА РУЛЁМ!

# Крэдыт на Geely Atlas павялічваецца да 3,9% гадавых

*«БПС-Сбербанк» і СЗАТ «БелДжы» заявілі, што яшчэ як мінімум на год працягнуць праграму льготнага крэдытавання кітайскіх аўтамабіляў беларускай зборкі. Аднак працэнтныя стаўкі амаль на ўсе мадэлі сталі вышэйшымі.*




Летась, калі пачыналася крэдытная праграма на пакупку Geely, набыць красовер Atlas можна было па вельмі прывабнай стаўцы – 1,9%, якая дзейнічала першыя два ці тры гады ў залежнасці ад першапачатковага плацяжу ад кошту машыны. Цяпер працэнт 1,9% гадавых застаецца толькі на мадэль Emgrand 7. «*Пры куплі астатніх мадэляў, у тым ліку Geely Atlas, крэдыт абыдзецца ў 3,9% гадавых*», – паведамілі ў банку. У адным са сталічных дылерскіх цэнтраў Geely «Народнай Волі» ўдакладнілі, што новыя працэнтныя стаўкі пачнуць дзейнічаць ужо з 1 красавіка. «*Яшчэ можна паспець аформіць заяўку на пакупку машыны на ранейшых умовах*», – сказалі ў аддзеле продажаў.

– *Атрымаць ільготны крэдыт можна амаль пры любой зарплаце*, – такую інфармацыю прадаставілі ў банку. – *Што важна, пры вызначэнні максімальнай сумы ўлічваюцца сукупныя даходы блізкіх сваякоў. Рашэнне аб выдачы крэдыту прымаецца на працягу аднаго дня з моманту падачы пакета дакументаў.*

Дарэчы, у мінулым годзе праграмай крэдытавання на пакупку новых Geely скарысталіся больш за 1000 беларусаў. У сярэднім пазыка ў банку складала 28,3 тысячы рублёў, што пакрывала 70–80% кошту аўтамабіля.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДАРЭЧЫ

## Кошты захаваліся…

У мінулым годзе беларусы паставілі рэкорд – купілі на 54% больш новых машын, чым у 2017 годзе. Усяго – 52,8 тысячы новых аўто.

Традыцыйна ў лідарах продажаў апынуўся Renault, аўтамабіляў гэтай маркі было рэалізавана ў 2018 годзе 11,3 тысячы. На другім месцы – Lada, прычым гэтых расійскіх машын было прададзена ў 2 разы больш, чым у 2017-м – 10,4 тысячы штук. А на трэцім месцы – Volkswagen з колькасцю прададзеных машын – 6,9 тысячы, што на 24% больш, чым у 2017 годзе.

У беларуска-кітайскага Geely 4-е месца. У Беларусі рэалізавана 3,3 тысячы новых машын Geely. І трэба адзначыць, што ў параўнанні з 2017 годам гэта ў 5,9 раза больш! Больш за 65% пакупнікоў – гэта фізічныя асобы.

Безумоўна, рост папулярнасці Geely выкліканы ў тым ліку і магчымасцю купіць машыну ў крэдыт на прывабных ільготных умовах. Але варта адзначыць, што і кошт на «беларускага кітайца» за год не вырас. Так, напрыклад, у мінулым годзе Geely Atlas у залежнасці ад камплектацыі каштаваў ад 35.200 да 49.400 рублёў. Па такім жа кошце аўтамабілі рэалізоўваюцца і сёння.

Але лыжка дзёгцю ў бочцы мёду ўсё ж такі ёсць. У гэтым годзе планавалася выйсці на выпуск 15 тысяч Geely, а выніковая лічба, агучаная в.а. дырэктара беларуска-кітайскага прадпрыемства «БелДжы» Генадзя Свідзерскага, – каля 9 тысяч (да 3,3 тысячы машын, рэалізаваных у Беларусі, дадаецца яшчэ каля 5 тысяч, прададзеных у Расіі). Што тычыцца планаў на 2019 г., то раней заяўлялася, што сёлета «БелДжы» плануе сабраць 22 тысячы аўтамабіляў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Станіслаў ШУШКЕВІЧ: «У Баку ахоўнік трое сутак не адыходзіў ад мяне…»

*Былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі распавёў «Народнай Волі», як яго сустракалі ў Азербайджане.*

– Днямі ў Баку праходзіў 7-ы Глабальны сусветны форум, які праводзіцца штогод, – кажа Станіслаў Станіслававіч. – Мяне туды запрасілі разам з жонкай ужо ў чацвёрты раз. Па прадстаўніцтве гэта было проста фантастычнае мерапрыемства: каля 500 удзельнікаў, 12 дзеючых і больш за 30 былых кіраўнікоў дзяржаў. Я не выступаў з дакладам, але ўдзельнічаў у дыскусіях.

На канферэнцыі абмяркоўваліся самыя актуальныя пытанні сучаснасці: канфлікт ва Украіне, праблемы Карабаха… Натуральна, сустрэўся і са многімі знаёмымі. Пагутарыў з Генадзем Бурбулісам, былым прэзідэнтам Украіны Віктарам Юшчанкам, які таксама прыляцеў у Баку разам з жонкай Кацярынай. Дарэчы, яна дыпламат, амерыканка ўкраінскага паходжання.

Мая жонка таксама брала ўдзел ва ўсіх секцыях, хаця мела права і адмовіцца. Я жартую, што ў мяне зараз дзве неабходныя рэчы ў жыцці – жонка і кій, бо адносна не так даўно зламаў нагу.

**– Як вас сустракалі ў Баку?**

– На супервысокім узроўні! Напярэдадні мне даслалі білеты на дваіх Мінск–Баку–Мінск, ляцелі бізнес-класам. У аэрапорце прызямліліся амаль у тры гадзіны ночы, і адразу ля трапа самалёта нас сустрэў чалавек, які сказаў, што ўвесь час нашага знаходжання ў Азербайджане будзе суправаджаць і дапамагаць ва ўсім. Махадзінлі Анар Яшар-аглы – прафесійны ахоўнік.

**– Што яшчэ ўдалося пабачыць падчас паездкі? Напэўна ж, быў і вольны час…**

– Усе экскурсіі планаваў мой ахоўнік. Я, напрыклад, быў проста ў захапленні ад наведвання Музея дываноў. Там сабраны самыя сапраўдныя творы мастацтва, якія паказваюць, на што здольны азербайджанцы. Цудоўнае спалучэнне якасці, формы, багатых колераў. Калі праводзіш па дыване рукой, то адразу адчуваеш цеплыню.

Наведаліся на Вогненную зямлю – месца, дзе газ выходзіць з зямлі і гарыць. Праўда, сітуацыя атрымалася крыху няёмкая. Мы прыехалі, а музей быў закрыты. І спецыяльна для нас выклікалі мэра, адкрылі ўстанову, каб паказаць гэты музей.

А яшчэ была сустрэча са старым знаёмым – былым прэм'ерам Азербайджана Рагімам Гусейнавым. У папярэднія разы, калі я быў у Баку, ён хварэў. І вось я сказаў ахоўніку, што нядрэнна было б з ім сустрэцца. Той за некалькі хвілін знайшоў тэлефон Гусейнава, мы дамовіліся пра сустрэчу ў рэстаране.

Сустрэліся ў даволі незвычайным месцы – рэстаранчык быў невялікі і знаходзіўся ў памяшканні былой лазні. Але ўсё было прыгожа: з азербайджанскім каларытам, афіцыянтамі ў нацыянальных строях. Дарэчы, у Азербайджане афіцыянтамі працуюць пераважна мужчыны, а не дзяўчаты, як у нас.

На вячэру Гусейнаў прыйшоў з малодшым унукам, прысутнічалі мы з жонкай і традыцыйна наш ахоўнік. Было пра што пагаварыць, таму што ў Паўднёвай Карэі мне і Гусейнаву далі тытул «Пасланнікі міру».




У гэтым месцы здымалі кадры камедыі «Брыльянтавая рука».

На шыкоўным «Мерседэсе» з мігалкай адвезлі ў не менш шыкоўны пяцізоркавы гатэль. Мы мелі цудоўны нумар з казачным відам на Каспійскае мора. Каб зразумець маштаб гэтага нумара, скажу, што ён быў большы, чым уся наша чатырохпакаёвая кватэра ў Мінску. І, шчыра кажучы, я не вельмі ўтульна адчуваю сябе на такіх плошчах у гатэлі. Неяк мы былі ў Лондане, і там не вельмі багатая беларуская дыяспара зняла нам маленькі нумар у невялікім гатэлі. Але ўсяго хапала, і ніхто не скардзіўся. А тут, каб з аднаго канца пакоя ў іншы дайсці, трэба яшчэ пастарацца. Я такой раскошы ніколі не патрабую, але, як кажуць, Усход – справа тонкая.

**– З прэзідэнтам Азербайджана не сустракаліся?**

– Ільхам Аліеў быў на адным з прыёмаў, і за 7 хвілін ён здолеў патлумачыць нам усё, што адбываецца ў Азербайджане і навокал. Да слова, трэба адзначыць яго высокую адукаванасць, бо па блаце скончыць на выдатна Маскоўскі інстытут міжнародных адносін ні ў кога не атрымлівалася.

Былі, безумоўна, жадаючыя сустрэцца з кіраўніком Азербайджана, але асабіста ў мяне да яго пытанняў не было.

**– Адным словам, падчас паездкі сумясцілі карыснае з прыемным…**

– Ведаеце, што я найперш зрабіў, калі прыляцеў у Мінск? Пайшоў у Пасольства Азербайджана ў Беларусі і папрасіў даведацца, хто начальнік майго ахоўніка. Там мне далі ўсе неабходныя кантакты.

Хачу гэтаму начальніку напісаць ліст-падзяку за працу Махадзінлі Анар Яшар-аглы. У мяне ніколі не было суправаджаючага такога ўзроўню дасведчанасці і такой далікатнасці паводзін. Усё, што нам было патрэбна, ён імгненна выконваў, і часам складвалася ўражанне, што ўсе трое сутак наш ахоўнік не спаў і дзяжурыў ля мяне.

**– Станіслаў Станіслававіч, то вы ўдзельнічаеце ў форуме ў Паўднёвай Карэі, то ляціце ў Лондан, Мексіку альбо Азербайджан… Не складана ў 84 гады калясіць па ўсім свеце?**

– Ведаеце, як мне падаецца, удзел у такіх мерапрыемствах толькі дадае здароўя і сіл. Калі працуеш – значыць, жывеш. Да таго ж прыемна адчуваць, што ў свеце цябе шануюць і паважаюць тваю былую працу.

**Алесь СІВЫ.**

ЖИЗНЬ КАК ОНА ЕСТЬ

# «…В связи с истечением срока контракта»

*С такой формулировкой была уволена Лариса Данилевич, заработок которой не дотягивал даже до минимальной зарплаты.*

Ларисе Данилевич – 42 года. С 19 января 2019 года она без работы. До этого чуть больше одиннадцати лет принимала заказы в Хоростовском комплексном приемном пункте Солигорского комбината бытового обслуживания.

Зарплата в последние годы была такой, что даже стыдно называть.

*– В прошлом году не выдержала и высказала претензии руководству: мол, как это так, получаю меньше установленного законом минимума, хотя меня заставляют делать даже то, что не входит в мои обязанности? Например, я «за спасибо» чистила и красила забор вокруг территории приемного пункта. Спустя несколько месяцев меня вообще уволили,* – услышала я от Л.А.Данилевич.

Приемщицей заказов она, кстати, работала с декабря 2007 года. Первоначально ее должностной оклад составлял 1 миллион 730 рублей (после деноминации – 173 рубля). Плюс 10 процентов от оклада доплачивали за исполнение функций истопника, дворника, уборщика КПП. Принимала заказы на ремонт обуви, верхней одежды, телевизоров. Белье в стирку, одежду в химчистку люди сдавали. Но основную выручку делала на продаже постельного белья, подушек, одеял. Позже стали продавать также товары, входящие в перечень ритуальных. Комплексный приемный пункт торговал еще и крупами, макаронами. Машина приходила примерно раз в неделю, доставляла выполненные заказы, забирала новые и заодно привозила товар на продажу.

*– До 2011 года мой заработок меня в общем-то устраивал,* – говорит Лариса Адамовна. – *Например, в 2009 году я зарабатывала на нынешние деньги 260–280 рублей в месяц. Сводила концы с концами, поскольку цены тогда на многое были значительно ниже.*

В январе 2014 года Л.Данилевич перевели (с ее согласия) на контрактную систему найма. А вскоре, по ее словам, объявили, что переводят на сдельщину.

*– Экономисты объяснили, что комплексный приемный пункт получает определенный процент от выручки за заказы и продажу товаров. К примеру, я имела 7 процентов от стоимости заказа, 7 процентов от цены проданного постельного белья, 3 процента от реализованных круп, макарон.*

Первый контракт был подписан на год, но его постоянно продляли. Заработок падал из года в год. Моя собеседница вспоминает, что просила привозить побольше одеял, постельного белья на продажу – эти товары все-таки пользовались спросом. Но в КБО ссылались на то, что нет денег на закупку тканей. А однажды вместо бязевых простыней привезли льняные по цене 36 рублей за штуку – это в три раза дороже, чем стоили бязевые.

*– Ну кто на селе будет брать за такие деньги простыни, когда люди экономят на всем? Не покупали их.*

*КБО, сельские приемные пункты неплохую прибыль имели от продажи товаров на ярмарках в Минске, Солигорске. С некоторых пор меня перестали брать на эти ярмарки. Говорили, что далеко машину за мной гнать – от Солигорска до Хоростово 50 километров.*

*Упала и выручка от продажи круп, макарон. Как цены выросли, люди стали хуже их брать.*

Лариса Данилевич говорит, что в последние два года ее заработок стал ниже установленной по закону минимальной заработной платы. Для подтверждения своих слов предъявляет расчетные листки. К примеру, за январь 2018-го ей начислено 218 рублей 02 копейки, за июнь того же года – 189 рублей 32 копейки, за август – 160 рублей 92 копейки, за сентябрь – 209 рублей 18 копеек. В октябре, по ее словам, она получила 200 рублей вместе с отпускными. (Заметим, в 2018 году минимальная заработная плата в Беларуси составляла 305 рублей.)

Попробуй выжить при таких нищенских заработках, а тут еще в начале октября 2018 года Лариса Адамовна получила уведомление за подписью директора КБО М.В.Жилич о том, что переводится на полставки, а КПП в Хоростово – на неполный рабочий день в связи с низкой выручкой от реализации товаров, работ и услуг, ежемесячным невыполнением доведенного планового задания. Правда, в ее трудовой книжке перевод на полставки не отражен, – уверяет Лариса.

А 19 января нынешнего года наниматель вообще прекратил с ней трудовые отношения в связи с… истечением срока контракта. И это при том, что, по словам Л.Данилевич, никаких официальных взысканий за время работы в Солигорском КБО у нее не было.

Я дозвонилась до директора Солигорского районного комбината бытового обслуживания Марии Владимировны Жилич. Хотелось прежде услышать из ее уст, почему Лариса Данилевич получала меньше минимальной заработной платы. Ведь МЗП – это социальная гарантия государства и размер ее устанавливается не Ванькой-встанькой, а Советом министров Республики Беларусь.

Разговора по существу не получилось. Я попросила записать номер моего мобильного на случай, если Мария Владимировна захочет встретиться и обсудить проблему с глазу на глаз. Однако директор РКБО мне не перезвонила.

Я связалась с Минским областным управлением Департамента государственной инспекции труда Министерства труда и социальной защиты Республики Беларусь. Поинтересовалась: должен ли наниматель доплачивать работнику до минимальной заработной платы? Услышала: должен. Минимальная заработная плата (МЗП) – государственный минимальный социальный стандарт в области оплаты труда. Согласно Трудовому кодексу Республики Беларусь, это нижняя граница оплаты труда работников. Если зарплата работника ниже, то наниматель обязан произвести доплату, это распространяется на работников как с повременной оплатой труда, так и со сдельной. Такое разъяснение я получила от дежурного инспектора Дмитрия Ивановича Лавцеля.

С главным государственным инспектором труда Слуцкого межрайонного отдела Минского областного управления Департамента государственной инспекции труда Андреем Викторовичем Езовитом я встретилась в его кабинете. Он подтвердил сказанное Лавцелем.

*– При отработке нормы часов, установленной нанимателем, а также при работе в нормальных условиях наниматель обязан доплачивать работнику до минимальной заработной платы. И это касается как тех работников, которые на окладе, так и тех, которые переведены на сдельщину.*

Есть закон и есть действительность. К сожалению, в данном случае они расходятся. Мало того, что Ларисе Данилевич не доплачивали, так еще и контракт не продлили. Надежд на официальное трудоустройство немного. По образованию Данилевич бухгалтер, найти в деревне работу по специальности трудно. Живет женщина вдвоем с мужем, расчет пока на его поддержку и огород возле дома.

Лариса Адамовна говорит, что в сезон посадки и уборки урожая местные люди, не имеющие постоянной работы, ездят подрабатывать к фермерам. Летом ягоды собирают, сдают-продают. Она допускает, что, возможно, ее основной доход будут теперь определять именно эти занятия. Жить-то на что-то надо…

Лариса Данилевич намерена добиваться, чтобы ей доплатили за тот период, когда ее зарплата была меньше МЗП.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**
*Солигорский район.*

ПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

# Мяккая лібералізацыя ці ўзмацненне кантролю?

*Міністэрства юстыцыі распрацоўвае папраўкі ў закон аб палітычных партыях. На разгляд Палаты прадстаўнікоў іх плануецца накіраваць восенню.*

## Спрэс перашкоды

Сёння дзейнасць палітычных партый у Беларусі вельмі абмежавана, а рэгістрацыя новых магчыма толькі са згоды ўлад, канстатуе старшыня Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» **Сяргей Калякін**. З 2001 года ў Беларусі ўвогуле не было зарэгістравана ніводнай партыі, хаця гэта спрабавалі зрабіць аргкамітэты па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», Партыі свабоды і прагрэсу, Партыі працы, партыі «Народная грамада». «Ім адмаўлялі на падставах, якія супярэчаць Канстытуцыі, але фармальна грунтуюцца на дзеючым законе».

Паводле сённяшняга заканадаўства, у палітычнай партыі павінна налічвацца не менш за тысячу заснавальнікаў. Такое патрабаванне супярэчыць сусветнай практыцы, мяркуе Калякін. У Швецыі, напрыклад, увогуле адсутнічае норма аб абавязковай колькасці сяброў партыі, а ў Расіі з яе 140 мільёнамі насельніцтва нормай з'яўляецца 500 чалавек.

Яшчэ адна заканадаўчая перашкода для развіцця палітычнага будаўніцтва – наяўнасць юрыдычнага адраса для партыйных структур у нежылых памяшканнях. Па-першае, дзяржаўныя органы, як правіла, адмаўляюцца прадастаўляць плошчы, па-другое, фінансавыя патрабаванні для арэнды офісаў непад'ёмныя для партый (толькі дзве партыі з 15 – праўладныя Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці і Камуністычная партыя Беларусі – маюць паніжальны каэфіцыент 0,1 пры арэндзе памяшканняў). Паводле слоў Калякіна, калі раней у «Справядлівага свету» было зарэгістравана больш за тысячу розных партыйных структур, то цяпер – толькі 55.

Не могуць на практыцы апазіцыйныя партыі рэалізаваць і сваё права на выкарыстанне дзяржаўных СМІ. У прыватнасці, улады так і не прапісалі парадак прадастаўлення партыям друкаваных плошчаў ці эфіру.

А вось ліквідаваць палітычную партыю нескладана. Гэта робіцца Вярхоўным судом на падставе двух папярэджанняў Міністэрства юстыцыі, якія могуць быць вынесены «за што заўгодна».

## Мінюст: выконваем рэкамендацыі…

Пакуль размова ідзе аб невялікіх папраўках, абумоўленых рэкамендацыямі ГРЕКО (Групы дзяржаў па барацьбе з карупцыяй), – адзначыў намеснік кіраўніка ўпраўлення па пытаннях некамерцыйных аб'яднанняў Міністэрства юстыцыі **Аляксей Печкуроў**.

Плануецца, што ў законапраект будуць унесены папраўкі, звязаныя з «неабходнасцю забяспечыць празрыстасць фінансавання палітычных партый». Ім будзе прадпісана размяшчаць у адкрытым доступе інфармацыю аб крыніцах фінансавання. Праўда, называць дакладныя імёны фізічных асоб ці назвы арганізацый не прыйдзецца: толькі сумы іх ахвяраванняў.

Таксама Мінюст плануе прадугледзець у законе норму аб магчымасці перадачы ў электронным выглядзе дакументаў аб рэгістрацыі і электроннай перапісцы з рэгіструючым органам.

Печкуроў не хавае, што ёсць пэўныя праблемы, якія датычацца атрымання партыямі юрыдычных адрасоў, аднак «дакладнай пазіцыі тут у Мінюста няма».

## Неабходны больш значныя змены

Развіццё партыйнай сістэмы ў Беларусі падвісла з сярэдзіны 1990-х гадоў, лічыць старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) **Ігар Барысаў**. Краіна не пайшла па шляху Расіі, Украіны, Малдовы, Грузіі ды іншых, дзе палітыка змяшалася з бізнесам. Таму ён прапануе скарыстацца вопытам Швецыі, дзе існуе дзяржаўнае фінансаванне партый і яны не залежаць наўпрост ад бізнесу. Напрыклад, памеры такога фінансавання маглі б вызначацца з улікам таго, колькі кандыдатаў у дэпутаты кожная з іх зможа вылучыць.

Апазіцыйныя партыі прапануюць Мінюсту таксама вярнуць магчымасць рэгістрацыі партыйных структур у жылых памяшканнях, забяспечыць бясплатнае прадастаўленне памяшканняў для правядзення з'ездаў, увесці паніжальныя каэфіцыенты пры арэндзе памяшканняў, гарантаваць доступ да дзяржаўных СМІ.

Сярод прапаноў апазіцыйных партый ёсць і тыя, якія прадугледжваюць унясенне паправак у Канстытуцыю. Даўно наспеў час увядзення прапарцыянальна-мажарытарнай сістэмы выбараў, прадастаўлення партыям права заканадаўчай ініцыятывы і звароту ў Канстытуцыйны суд…

## Ініцыятыва, якая выклікае трывогу

Усе змяненні ў законы, а тым больш аб палітычных партыях, – важныя для жыцця краіны, – адзначае выконваючы абавязкі старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Мікалай Казлоў**. Але наколькі ў дэмакратычным накірунку будзе скарэктаваны закон, застаецца толькі здагадвацца. Калі ўлічваць рэпутацыю нашых дзяржорганаў, то яны хутчэй жадаюць ускладніць, а не спрасціць жыццё. Напрыклад, магчымасці спрасціць рэгістрацыю палітычных партый яны нават не разглядаюць. Таму адчуванні хутчэй трывожныя.

Да пачатку мая апазіцыйныя партыі плануюць сфармуляваць свае прапановы адносна паправак у закон аб палітычных партыях і накіраваць іх у Мінюст і іншыя зацікаўленыя дзяржорганы.

Мінюст абяцае вынесці законапраект на грамадскае абмеркаванне. І хаця канцэптуальныя змяненні не прадугледжваюцца, усе прапановы абяцаюць разгледзець і, паводле слоў прадстаўніка ведамства, пры неабходнасці ўнесці ў закон.

**Сяргей КАРАЛЕВІЧ.**

З ЗАЛЫ СУДА

## Да 9 гадоў калоніі…

У судзе Фрунзенскага раёна Мінска працягваецца судовы працэс над фігурантам гучнай «справы медыкаў» **Аляксеем Яськовым**, былым начальнікам ваенна-медыцынскага ўпраўлення Міністэрства абароны. Ён адзіны з тых, каго судзяць за карупцыю ў ахове здароўя, хто не прызнаў сваю віну.

Учора ў судзе ішлі спрэчкі бакоў. Пракурор **Юрый Шарснёў** заявіў, што віна Яськова ў судзе была даказана. Дзяржабвінаваўца папрасіў прызнаць яго вінаватым у атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры і злоўжыванні і перавышэнні ўлады і пакараць Яськова 9 гадамі пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

ЧУЛІ?

## Змяненняў у аплаце бальнічных не плануецца

*Такую заяву зрабіла кіраўнік Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны* ***Наталля Паўлючэнка.***

Як вядома, у Беларусі гучалі прапановы не аплачваць бюлетэні за першыя тры дні хваробы пры агульным захворванні або бытавой траўме. Прычынай называўся рост выдаткаў на аплату бальнічных, якія ідуць з Фонду сацыяльнай абароны.

Наталля Паўлючэнка сказала, што дзеючае заканадаўства, якое рэгулюе аплату лісткоў непрацаздольнасці, захоўваецца. У канцы мінулага года ўнесены толькі змяненні ў парадак іх афармлення і выдачы.

Сёння бальнічныя аплачваюцца па такой схеме: 80% ад сярэдняга заробку працаўніка за першыя 12 каляндарных дзён хваробы, а затым у памеры 100%.

УВАГА!

## Не напаліце 1020 рублёў штрафу

Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя папярэджвае аб адказнасці за выпальванне сухой травы.

У адпаведнасці з законам «Аб раслінным свеце» выпальванне сухой расліннасці (сухіх раслін) і яе рэштак на корані забараняецца. За невыкананне патрабавання прадугледжана адказнасць у адпаведнасці з Кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэннях. За незаконнае выпальванне сухой расліннасці або непрыняцце мер па ліквідацыі выпальванняў пагражае штраф ад 10 да 40 базавых велічынь, а гэта – 255–1020 рублёў. Развядзенне вогнішча ў забароненых месцах вядзе да папярэджання або накладання штрафу ў памеры да 306 рублёў (12 БВ).

ГОСТЬ «НАРОДНОЙ ВОЛИ»



## Николай СЕВРЮКОВ, профессор Академии музыки:

# «Многие молодые люди даже не знают, где находится филармония!»

**У студентов профессора Севрюкова всегда был особенный – «звездный» – статус. Потому что Николай Иванович – это настоящий конвейер по производству лауреатов международных конкурсов. Редкий человек в Академии музыки имеет такой победный список. *«130 раз мои студенты становились лауреатами»,* – делится творческой арифметикой Николай Иванович. *«С ребятами мы выигрывали самые престижные в мире состязания. А теперь на них побеждают уже студенты моих бывших учеников. Так что у нас своя династия»,* – шутит профессор. В Академии музыки он работает почти 45 лет! 30 из них руководил кафедрой баяна-аккордеона, которую сам когда-то и создал.**

– Я был первым завкафедрой баяна-аккордеона во всем Советском Союзе! – *улыбается музыкант.* – В Минске мы совершили настоящий переворот: разделили кафедру народных инструментов на «струнников» и «баянистов». Многие восприняли это в штыки. Но когда ведущие консерватории Союза стали брать с нас пример, стало понятно: все было правильно.

**– На кафедре, вы, кажется, единственный заслуженный артист?**

– У нас в Академии музыки в принципе мало людей с почетными званиями. Скажем, в той же Гнесинке на кафедре баяна-аккордеона почти все народные и заслуженные. И это правильно. Людей, которые трудятся самозабвенно и тратят себя без остатка, нужно поощрять.

**– Ну вам-то уж грех жаловаться, Николай Иванович!**

– И это правда. Хотя главная награда – талантливые ребята. Скажем, сегодня на нашей кафедре большая часть педсостава – мои выпускники. Многие мои студенты стали солистами филармонии. Владислав Плиговка, Игорь Квашевич, Дмитрий Мироненко, Трофим Антипов, Константин Тарасенко, Дмитрий Казека, Александр Мацкевич… Перечислять можно бесконечно.

**– Николай Иванович, а как сейчас с интересом к инструменту? Ведь это раньше баянист был первым парнем, а сейчас родители всё чаще отдают свои чада на фортепиано, гитару, скрипку…**

– Намекаете, что баян – это немодно? Но его уже давно не воспринимают как народный инструмент, на котором играют только польки. Скажем, сегодня весь мир сходит с ума по джазовому баянисту Ришару Гальяно, заслушивается удивительными танго Астора Пьяццоллы. А сколько всего пишут для нас современные композиторы! Так что это очень популярный в мире инструмент. А в некоторых европейских городах настоящий аккордеонный культ: сувениры, скульптуры, открытки и даже музыка в магазинах – все посвящено нашему инструменту! И это выглядит по-настоящему стильно.

### «С концертами я объездил полмира»

**– Николай Иванович, в 1971 году вы стали первым белорусским музыкантом, который выиграл международный конкурс в немецком Клингентале. А ведь для музыкантов это состязание – как Олимпийские игры для спортсменов!**

– Тогда советские музыканты только начинали в нем участвовать. Если ничего не путаю, я попал в третий заход. Вообще, уже просто пройти всесоюзный отбор на Клингенталь было победой. Со всей большой страны съезжались лучшие музыканты. В мой год их было больше пятидесяти. А отбирали двух-трех. Так что это действительно была победа, которая запомнилась на всю жизнь.

**– И открыла вам дорогу на большую сцену?**

– Будучи солистом Белгосфилармонии, я объездил полмира. Вьетнам, Бразилия, Аргентина, европейские страны. А в Советском Союзе даже трудно назвать место, где я не выступал: Камчатка, Сахалин, Магадан, Средняя Азия, Прибалтика, Украина. У меня была очень интересная концертная жизнь.

**– Гастрольный дневник не вели?**

– Пытался, но потом мне это надоело. Потому что едешь на Дальний Восток с договоренностью на 25 концертов, а играешь 35. У людей была потребность…

### «Хороший баян стоит не меньше шести тысяч евро»

**– Николай Иванович, за 30 лет руководства кафедрой вам стало понятно, почему один курс – ну просто звездный, а другой – сероватый, ровный?**

– Знаете, что я заметил? В годы, когда в Беларуси проходит наш национальный конкурс имени Жиновича, наборы у нас очень яркие. Поэтому я всегда советую педагогам музыкальных школ, училищ: вывозите своих ребят, давайте им соревновательный момент.

**– А это точно про музыку?**

– А я всегда привожу пример, как раз говоря о том, что музыка очень близка со спортом: если спортсмен будет только тренироваться и не выходить на помост, не сравнивать себя с другими, больших он добьется результатов?

**– Кстати, о спортивных результатах у нас на каждом углу кричат. А вот информационный резонанс от мировых побед ваших воспитанников куда скромнее. Не обидно? Ваш вклад в международный имидж страны не меньше.**

– Мой воспитанник Владислав Плиговка выиграл более 30 международных конкурсов, получая только первые премии! И, конечно, мне становится горько, когда я вижу, как ездят на соревнования наши спортсмены. Их и кормят, и поят, и обеспечивают инвентарем, рядом тренерский состав. А нас порой упрекают: мол, неужели студент не может поехать на конкурс без профессора? А теперь представьте на соревнованиях спортсмена без тренера. Я уже не говорю о том, что на все международные конкурсы ребята с педагогами ездят за свои деньги.

**– Да уж, недешевое нынче удовольствие быть талантливым музыкантом. А это мы еще не говорили про инструменты.**

– Цены на них сегодня просто зашкаливают! Представьте, что более-менее нормальный инструмент стоит не меньше шести тысяч евро. А если мы говорим о каком-то по-настоящему достойном варианте, то это двадцать, двадцать пять тысяч. То есть для студента купить такой аккордеон или баян практически невозможно. Благо, Академия музыки сейчас приобрела два хороших итальянских инструмента.

**– Но это академия, столица. А если мы отъедем километров этак на сто от Минска да зайдем в музыкальную школу?**

– К сожалению, наши музыкальные школы сегодня в плачевном состоянии. Инструменты старые, добитые, потрепанные. Садим первоклашку за аккордеон, которому 60 лет. А у ребенка должна быть игрушка в руках! Многому ли он научится, играя, простите, на дровах?

**– Хотя уж школы мог бы обеспечить и белорусский производитель. Делали же у нас когда-то баяны в Молодечно.**

– Там и сейчас выпускают инструменты Zonta. Неплохого, кстати, качества. Наши студенты на них играют. Но это не массовое производство, а, скорее, какие-то лимитированные серии. И опять же, цена…

**– Выход?**

– Мы же делаем теперь автомобили. Так и с инструментами: нужно пойти по примеру Geely, кооперироваться с известными производителями. И мог бы получиться классный продукт, поверьте! Нам очень нужно такое производство. Потому что если не будет талантливых детей в музыкальных школах, не будет их и в академиях.

### «У меня есть студенты, которые занимаются сутками»

**– Николай Иванович, а что домашние? В курсе ваших рабочих перипетий?**

– Конечно! Моя жена работает в музыкальной школе. Она, как и я, преподает баян и аккордеон. Одна моя дочь окончила музыкальное училище, вторая – музыкальную школу по фортепиано. Мои внуки тоже занимаются музыкой. Так что за ужином мы всегда делимся своими успехами и печалями.

**– И какая может быть у профессора печаль?**

– Не секрет, что многие наши выпускники, не найдя для себя какой-то результативной работы, расстаются с музыкой. Поэтому все время думаешь: как их реализовать, куда направить? Чтобы им было интересно, чтобы не было разочарования в профессии. Потому что не каждый может быть педагогом, не каждый станет солистом, артистом оркестра. Ищешь, советуешь.

**– А теперь не с профессорской, а с родительской колокольни: всем ли детям нужно заниматься музыкой?**

– Я хотел бы сейчас обратиться ко всем молодым мамам и папам: не сомневайтесь, отдавайте своих деток в музыкальные школы. Пусть они не станут профессиональными исполнителями, но как расширится их кругозор! А то у нас многие молодые люди даже не знают, где находится филармония. Ведь ребенок, который начинает в раннем детстве соприкасаться с прекрасным, будет совершенно по-другому воспринимать мир, по-другому относиться к жизни. Это во многом даст толчок в его образовании, в его стремлении. Потому как музыка заставляет трудиться.

**– Кстати, трудолюбивый середнячок или талантливый разгильдяй – у кого больше шансов на успех?**

– Много лет назад у меня занимался Саша Пылик. Блестящий баянист! Казалось, у него потрясающее музыкальное будущее. А он увлекся другими вещами, перестал заниматься и не состоялся в профессии. Сейчас работает футбольным судьей. И дай Бог, чтобы в этой новой своей деятельности он достиг больших высот. Но вы поймите: академическая музыка – это очень тяжелый труд. У меня есть студенты, которые сутками занимаются! Прихожу утром – играет. А накануне (мне докладывают) ушел из класса в десять вечера. Ну потому что по-другому ничего не получится, даже у самого талантливого. И действительно, порой человек со средними данными, но потрясающей работоспособностью достигает больших высот.

**– А со стороны кажется, что в классе у вас только звезды…**

– Потому что я никогда не разделяю студентов на талантливых и неталантливых. Если человек пришел учиться и попал ко мне в класс – все! Будем заниматься. Кстати, многих своих студентов я знаю с малых лет. Еще школьниками они приходили ко мне в класс за подсказками и советами, а теперь из них выросли настоящие звезды. Елизавета Кейзерова, Михаил Волчков – сегодня эти ребята блистают на международных конкурсах, у них есть гранд-премии специального фонда президента по поддержке талантливой молодежи.

**– Теперь я понимаю, почему к вам толпы просятся!**

– А я ведь, если так подумать, тоже у них учусь – молодости, жизни. И каждый день по дороге на работу думаю: а что сегодня они покажут мне интересного, и что интересного смогу сказать им я?

**Алина СТРАШКЕВИЧ.**

КРИМИНАЛ

### 12 тысяч пачек сигарет «Фэст» загружали в вагоны с калийными удобрениями

*Такое количество «курева» контрабандисты из Солигорска намерены были отправить в Прибалтику, используя грузовой железнодорожный состав.*

Двое мужчин, занимавшихся закладкой сигарет в вагоны с удобрениями, стоявшими на железнодорожных путях недалеко от одного из рудоуправлений, были задержаны сотрудниками УБЭП УВД Миноблисполкома и ОБЭП Солигорского РОВД. Нет, контрабандисты, увидев приближающихся сотрудников милиции, попытались, конечно, сбежать. Но были быстро настигнуты милиционерами. Один из них сразу признался, что грузил сигареты в вагоны с удобрениями, другой уверял, что к данному деянию отношения не имеет, а оказался в поле потому, что решил переночевать на свежем воздухе.

Как оказалось, задержанные к своему делу готовились основательно и даже продумали, как себя обезопасить. Они использовали тепловизор, чтобы отслеживать обстановку, а мобильные телефоны с собой не брали – заменили их радиостанциями.

В настоящее время органы правопорядка устанавливают, были ли причастны задержанные к тем незаконным попыткам провоза сигарет за пределы страны, которые были выявлены на границе Республики Беларусь раньше.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

### Пагражае да 5 гадоў турмы за кантрабанду

Польскія мытнікі на пагранічным пераходзе ў Баброўніках выявілі кантрабанду больш як 30 тысяч пачак цыгарэт з беларускімі акцызамі на суму 400 тысяч злотых, што трохі больш за 100 тысяч долараў. Аб гэтым паведаміла Падляшская мытна-фінансавая палата.

Кантрабанда была схавана ў адмыслова пераабсталяваным кузаве паўпрычэпа – пад падлогай трэйлера.

Вядома, што кіроўцу 41 год, ён грамадзянін Польшчы. Па факце правозу кантрабанды праз граніцу была ўзбуджана крымінальная справа. Кіроўцу грузавіка пагражае да 5 гадоў пазбаўлення волі.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ПАМЯЦЬ

# У Шчучыне можа з'явіцца набярэжная генерала дэ Голя

*Ужо сёлета плануецца на будынку завода «Аўтапровад» у Шчучыне (Гродзенская вобласць), дзе падчас Першай сусветнай вайны ў нямецкім лагеры для ваеннапалонных знаходзіўся Шарль дэ Голь, адкрыць інфармацыйную шыльду. Таксама ў планах збудаваць на гэтым месцы помнік самаму славутаму французу XX стагоддзя і стварыць інтэрактыўны музей, які будзе ўзнаўляць падзеі Першай сусветнай вайны.*

### У архіўных дакументах было запісана, што Шчучын знаходзіцца ў Літве

Ужо дакладна ўстаноўлена, што лідар французскага Супраціву і прэзідэнт Францыі пасля Другой сусветнай вайны Шарль дэ Голь у 1916 годзе знаходзіўся ў нямецкім палоне ў беларускім Шчучыне. Тады яшчэ капітан Шарль дэ Голь правёў у лагеры для ваеннапалонных чатыры месяцы: з ліпеня па кастрычнік.

Гісторыя гэтай сенсацыйнай навіны пачалася з таго, што ў 2015 годзе ў архіў Шчучынскага райвыканкама звярнуўся французскі гісторык і бізнесмен **Марыс Панцье**. Загадчык аддзела турыстычнай і інвестыцыйнай дзейнасці ўпраўлення эканомікі Шчучынскага райвыканкама **Аляксандр Амшэй** узгадвае, што Панцье назваў сябе даследчыкам біяграфіі дэ Голя і прыехаў у Беларусь удакладніць, ці насамрэч у гэтым Шчучыне знаходзіўся дэ Голь у лагеры для ваеннапалонных. На жаль, беларускія архівы не захавалі такіх сведчанняў, і спадар Панцье, паводле сцвярджэння Аляксандра Амшэя, так жа раптоўна знік, як і з'явіўся.

Тым не менш праз пэўны час спадар Панцье зноў наведаўся ў Шчучын з цікавымі навінамі. Дзякуючы архівам Фонду дэ Голя і французскага Мемарыла спадар Марыс дакладна ўстанавіў, што дэ Голь знаходзіўся тады ў лагеры ў мястэчку Шчучын. Праўда, у архівах было чамусьці запісана, што гэта на тэрыторыі Літвы. Дакладна было ўстаноўлена, што капітан Шарль дэ Голь трапіў у нямецкі палон пад Вурдэнам і быў этапіраваны разам з іншымі французскімі афіцэрамі ў Шчучын.



Так цяпер выглядае былы будынак лагера для ваеннапалонных, у якім месціцца цэх завода «Аўтапровад».



Здымак генерала дэ Голя, змешчаны ў пакоі Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі.

### Шарль дэ Голь жыў на былой лесапілцы

Аказалася, што вакол Шчучына падчас Першай сусветнай вайны налічвалася больш за 20 нямецкіх лагераў для ваеннапалонных. Пераважна ў іх знаходзіліся салдаты, але ў адным – афіцэры, сярод якіх было 37 французаў.

У мемуарах аднаго з іх было запісана, што лагер знаходзіўся на тэрыторыі былой лесапілкі, а такая была толькі адна, яе заснавалі князі Друцкія-Любецкія ў 1888 годзе. Адшукалі і здымкі з лесапілкай: яе будынкі захаваліся да нашага часу і размешчаны на тэрыторыі завода «Аўтапровад» – тут зараз знаходзіцца адзін з цахоў прадпрыемства.

Пра ўмовы ўтрымання ў лагеры французскі афіцэр піша, што яны былі жудасныя і стаўленне да іх было такім жа – часам суп прывозілі ў начным гаршку. Французскіх афіцэраў трымалі на другім паверсе ў памяшканні плошчай 13 на 8,5 метра з 13 вокнамі. Так узгадвае адзін з іх у сваіх успамінах.

…Сёння знешне на тэрыторыі «Аўтапровада» нічога не нагадвае аб тым, што тут быў лагер для ваеннапалонных. Праўда, спадар Амшэй кажа, што адзін з рабочых гэтага завода распавёў, што некалі чуў ад сваёй бабулі, нібыта яна насіла ў лагер ежу для палонных… Насамрэч, калі прыгледзецца да архіўных здымкаў былога лагера ваеннапалонных, то ў сучасным будынку завода «Аўтапровад» ён праглядаецца, але канкрэтныя матэрыяльныя артэфакты да нашых дзён не дайшлі.

Ва ўспамінах французскіх афіцэраў згадваецца, што аднойчы дэ Голь з таварышамі паспрабаваў збегчы чарговы раз праз дзірку ў сцяне. Тады пакаралі ўсіх афіцэраў, пазбавіўшы іх на два тыдні прагулак.

Вядома дакладна, што з шчучынскага лагера французаў перавялі ў нямецкую крэпасць Інгальштат. На гэта нібыта паўплываў Брусілаўскі прарыў – прасоўванне рускіх войскаў прыкладна на 120 км на захад у раёне Карпат.

Немцы баяліся, што фронт можа зрушыцца і на іншых участках. Акрамя таго, памятаючы пра спробу ўцёкаў, немцы лічылі палонных асабліва небяспечнымі.

### «Мы хочам не толькі ўвекавечыць памяць дэ Голя, але і прывабіць сюды турыстаў»

Пасля таго як факт знаходжання генерала дэ Голя ў Шчучыне быў пацверджаны, у горад некалькі разоў ужо наведваўся пасол Францыі ў Беларусі. Французскім бокам выказвалася зацікаўленасць ва ўвекавечанні памяці Шарля дэ Голя, праўда, пакуль гэта застаецца толькі добрымі намерамі.

У той самы час загадчык аддзела турыстычнай і інвестыцыйнай дзейнасці ўпраўлення эканомікі Шчучынскага райвыканкама Аляксандр Амшэй сціпла распавядае, што пакуль французскі бок будзе вызначацца, як ушанаваць памяць генерала дэ Голя ў Шчучыне, мясцовыя ўлады ўсталююць інфармацыйную дошку на будынку былога лагера для ваеннапалонных з адзнакай, што тут знаходзіўся Шарль дэ Голь.

*«Мы зробім гэта як першы крок для ўвекавечання памяці генерала дэ Голя, з тым каб людзі бачылі і ведалі, які знакаміты чалавек тут знаходзіўся»,* – кажа Амшэй. – *І, канешне, мы спадзяёмся, што гэта павінна ў будучым прыцягваць на гэтае месца турыстаў».*

Спадар Амшэй кажа, што за час, як факт знаходжання дэ Голя ў Шчучыне стаў вядомы, ніякіх прамых кантактаў з Францыяй не ўзнікла. Гэтым месцам не зацікавіліся пакуль ні блізкія і родныя генерала, ні гісторыкі, ні турысты.

*«Канешне, гэта быў вельмі кароткі адрэзак жыцця Шарля дэ Голя – усяго чатыры месяцы, але, думаю, што калі факт стане больш шырока вядомы і ў Францыі, то знойдуцца зацікаўленыя асобы, каб наведаць гэтае месца»,* – разважае Аляксандр Амшэй.

У былым палацы Друцкіх-Любецкіх у Шчучыне, дзе зараз знаходзіцца Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, у пакойчыку, дзе змешчаны здымкі ўсіх вядомых людзей, лёс якіх так ці інакш звязаны са Шчучынам, ёсць і здымак французскага генерала дэ Голя. Аляксандр Амшэй распавядае, што ў планах улад у яго гонар назваць набярэжную ўздоўж гарадскога возера, дзе ў будучым маглі б шпацыраваць турысты.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

